


СПАДАРОЖНІКА-ВАЕ! ● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.

**ГЕРМАНІЯ. ГІТЛЕР. РЭФЕРЭНДУМ**

*...Свой трэці па ліку рэферэндум Гітлер правёў у 1936 годзе. 99 працэнтаў немцаў адобрылі палітыку фюрэра як кіраўніка дзяржавы. У выніку гэтага плебісцыту нацысцкая ідэалогія была ўзьведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі...*



ст. 2

**...ЗА ПАБЕГ - ТРЫ?**

*У сераду 9 кастрычніка, прыкладна а 17-й гадзіне гарадзенская міліцыя была паднятая па трывозе. З адной міліцэйскай установы зьбег вязень сьледчага ізалятара. Агульнымі намаганьнямі Алег З. быў схоплены праз некалькі гадзін.*

Іншыя крымінальныя навіны на ст. 8.






12 і 13 кастрычніка чакаецца хмарнасьць, без ападкаў, слабы вецер. Тэмпература паветра ўначы +1-6 градусаў, месцамі замаразкі да -2. Удзень 12 кастрычніка +11-16, 13-га - 14-19 градусаў цяпла.

# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 41 (188) ● 11 – 17 кастрычніка 1996 г. ● Кошт свабодны

## АРЫШТАВАНЫ РАХУНАК «РАДЫЁ НБК»

**«Радыё НБК», якое 30 верасьня забаранілі мясцовыя ўлады пад кіраўніцтвам Службы кантролю пры Адміністрацыі Прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці, дагэтуль не аднавіла сваёй працы. Звыш таго, кожны дзень «падкідвае» ўсё новыя сюрпрызы.**

Наведаўшы «Комплексбанк», нашыя калегі даведаліся, што іх разьліковы рахунак арыштаваны. Як вынікае з ліста, падпісанага начальнікам гарадзенскіх «контролёров» М.Пратaшчык, «за грубые нарушения в финансово-хозяйственной деятельности».

- *Служба кантролю Прэзідэнта сапраўды нас правярае,* - кажа кіраўнік радыё Ніна Палуцкая, - *але я дагэтуль не атрымала ні акта праверкі, ні якога-колечы іншага выраку вышэйназванай службы. Калі гэтыя «нарушения» сапраўды знойдзены, то чаму пра гэта я павінна даведвацца ў банку. Гэта прысуд у традыцыях энкавэдысцкіх «троек» - «без суда и следствия». Гэта - зьдзек...*

Яшчэ большы сюрпрыз чакаў спадарыню Палуцкую ў абласной пракуратуры, куды яна зьвярнулася, каб абскардзіць дзеяньні кантралёраў Прэзідэнта. Вельмі дыпламатычна ёй патлумачылі, што Служба кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта - гэта, мякка кажучы, незаконны ворган, які нідзе не зарэгістраваны і якога, калі верыць законам беларускай дзяржавы, увогуле не існуе. Атрымваецца, гэты ворган знаходзіцца па-за межамі «правового поля». А значыцца - для пракуратуры недасягальны.

«Всё это было бы смешно, когда бы не было так грустно!»

## ЛЕВАЯ АТАКА НА «ПРАВЫЙ БЕРЕГ»

**Не пасьпеўшы нарадзіцца, прымае сталыя зьдзекі газета «Правый берег» - орган Саюзу прадпрымальнікаў Гарадзеншчыны. Падрыхтаваны яшчэ летам да друку трэці нумар газеты не пабачыў сьвет і дагэтуль.**

Сваю адмову друкаваць «Правый берег» абласная друкарня патлумачыла тым, дзей газета не зарэгістраваная. Спробы журналістаў патлумачыць, што закон «Аб друку» дазваляе выдаваць сродак масавай інфармацыі накладам да 499 асобнікаў без рэгістрацыі, скончыліся нічым. Нічога аднак не зьмянілася і пасьля рэгістрацыі (рэгістрацыйнае пасьведчаньне N 754 ад 10 верасьня бягучага году). Гарадзенскія «нашчадкі» Скарыны адмовіліся заключыць дамову на друкаваньне гэтага выданьня.

**Чаму «Правый берег» трапіў у нямілась? «Не пра тое пішаце», - ці то жартам, ці то сур'ёзна заявіў на прэс-канферэнцыі ў аблвыканкаме начальнік управы па інфармацыі і друку Уладзімір Амелька, адказваючы на пытаньне рэдактара газеты Вадзіма Жураўлёва. Тое, што гаспадаром вобласьці не спадабаўся зьмест двух пробных нумароў «Праваго берега», ускосна пацьвердзілі і намогі надрукавацца ў друкарні аб'яднаньня «Азот», якія таксама скончыліся няўдала. І гэта пры тым, што ніводная гарадзенская друкарня ня можа пахваліцца лішкам заказаў!**

**Мікола ТУРАВЕЦ.**

**P.S.: Калі гэты матэрыял быў ужо падрыхтаваны да друку, стала ведама, што трэці нумар «Правого берега» 9 кастрычніка ўсё ж быў надрукаваны. У тыпаграфіі «Чырвоная зорка» ў Менску...**

## «СЬЦЕРАЖЫЦЕСЯ ІЛЖЫВЫХ ПРАРОКАЎ...»

Прачытаўшы ў газеце «Наша Ніва» артыкул «Рэжым забараняе «Пагоню», абурыўся ня столькі ўчынкам уладных структур (ад іх можна чакаць чаго заўгодна), колькі тым, што падставай для забароны стаў ліст ад Гарадзенскага абласнога Савету ветэранаў. Можна зразумець ветэранаў вайны, якія не ўспрымаюць Р.Астроўскага, Д.Касмовіча, М.Вітушку, у тым сэньсе, што ў кожнага з бакоў свае пагляды на гістарычныя моманты нашай Бацькаўшчыны, на шляхі змаганьня за незалежнасьць сваёй Радзімы. Але ж чаму тады гэтыя ветэраны не абурыліся кнігай, якая ёсьць амаль у кожнай кнігарні - «Апошнія запіскі Гебельса». Я ня чуў, каб абласны савет ветэранаў абурыўся і пасьля таго, як А.Г.Лукашэнка даказваў, што ў дзеяньнях Гітлера ёсьць нешта добрае.

**А ці многа хто з гэтых ветэранаў чытае «Пагоню»? Безумоўна, калі ёсьць даручэньне, то можна забараніць і гэту газету.** Але хто прымусіць мяне чытаць «Советскую Белоруссию» альбо «Знамя Юности»?

У іскавай заяве камітэту па друку газета «Пагоня» абвінавачваецца ў «разжигании национальной, социальной, рассовой, религиозной нетерпимости либо розни». Але давайце прыгадаем, як на вышэйшым роўні кіраўнікі нашай дзяржавы выступалі за «союз трёх славянских государств». Наколькі вядома, у сьвеце больш славянскіх краін, чым тры. Што гэта - падзел славян на лепшых (якія будуць у злучнасьці) і горшых (усе астатнія)? А што казаць пра тых людзей, якія жывуць разам з намі і не зьяўляюцца славянамі (татары, армяне, яўрэі, бураты, ненцы, мардва і іншыя)? Гэта што, людзі другога гатунку? Але ўсе народы ў гэтым сьвеце роўныя, няма ніводнага, які быў бы лепшым за іншыя. Калісьці Гітлер казаў аб першынстве арыйскай расы, а ў нас будзе хіба гегемонія славянскай расы.

Магу нагадаць, як было адмоўлена на нейкі час касьцёлу несьці па радыё Слова Боскае да людзей. Можа толькі таму, што яно гучала на беларускай мове, бо абазваў жа прэзідэнт Лукашэнка, выступаючы ў Гомлі, нашу мову «нядзеяздольнаю дзеля яе беднасьці». Ці не зьяўляецца ўсё гэта «...рассовой, религиозной нетерпимостью...»?

І апошняе. Я бачыў, як зьбівалі людзей 26 красавіка 1996 году ў Менску. Куды іх заганялі? Ведаю адно - толькі не ў цывілізаванае агульначалавечае супольніцтва.

*«Крывадушнік! Дастань перш палена з вока твайго і тады ўгледзіш, як дастаць сучок з вока брата твайго.»*

(Паводле Мацьвея сьв.Евангельпе, раз.7 верш 5).

**У.ЧАРТАПАЛАЎ,**
**п.Краснапольле**
**Магілёўскай вобласьці.**

## ЯК ФЮРЭР ФЮРЭРУ...

**Фюрэр расейскіх ліберал-дэмакратаў, усім ведамы Уладзімір Вольфавіч, у шматлікіх выпадках бывае вельмі карысным для розных палітыкаў і, асабліва, сродкаў масавай інфармацыі. І карысным менавіта сваёй беспасярэднасьцю і адкрытасьцю, уменьнем назваць рэчы сваімі імёнамі. Так, у сваім выказваньні «Почему мы должны биться за Лукашенко» ён, у адрозьненьне ад іншых расейскіх палітыкаў, адкрыта характарызуе палітыку А.Лукашэнкі як «абсалютна праpускую...з намёкам на магчымасьць поўнага аб'яднаньня» і «пасьлядоўна антынатаўскую».**

«Кепскі Лукашэнка ці добры, - кажа спадар Жырыноўскі, - але ён ператварыўся ў сімвал аб'яднаньня народаў у постсавецкі перыяд. Зьнішчыць гэты сімвал - азначае надоўга адсунуць перспэктыву адраджэньня імперыі». Адзін толькі недахоп у гэтых развагах. На думку Вольфавіча, імперыя плануецца адна, а прэтэндэнтаў у імператары ў самой Расеі больш, чым трэба. Але гэта для Вольфавіча ўжо ня мае значэньня. Шапку Манамаха ён Лукашэнку і не абяцае, хопіць з яго і сімвалам пабыць, а вось маральна падтрымаць, а заадно і павучыць трошкі - гэтага ўпусьціць нельга.

Сіндром «старэйшага брата» такі ж сталы, як і сіндром набытага імунадэфіцыту. Таму ў канцы свайго опусу адзін верны прыхільнік Гітлера будуе для другога такога ж прыхільніка эканамічную мадэль Беларусі: **«...У Лукашэнкі ёсьць добры шанец. Раз ўласнасьць у яго руках, ён можа сабраць у сябе разумных хлопцаў і спланаваць: вось гэтыя прадпрыемствы будзем захоўваць і разьвіваць і дамо сюды грошы, іншыя ж наогул непатрэбныя, іх трэба закрыць, а людзей перавучыць. На базе буйных структураў трэба стварыць буйныя канцэрны, і тады можна прадаць долю ў іх буйному інвестару... Заразом унутры аб'яднаньяў - жорсткая вертыкаль, дысцыпліна, дырэктары пад кантролем, зарплата пад кантролем. І так у кожнай галіне, улучаючы сельскую гаспадарку. У перспэктыве ў краіне могуць узьнікнуць пад кантролем прэзідэнта дзьве-тры магутныя фінансава-прамысловыя групы, якія кантралююць банкі, прадпрыемствы і гандаль, і цесна зьвязаныя з урадам і буйным замежным, перш за ўсё, расейскім капіталам...»**

Дастаткова. Усё суладна і лагічна, але недзе ўжо чута. Ага. Нямеччына. 1934 год. «Закон аб арганічнай пабудове нямецкай эканомікі». І наступныя дэкрэты, якія ўдакладняюць яго, агадвалі стварэньне 6-і імперскіх гаспадарчых групаў, а таксама вялікую колькасьць падгрупаў і гаспадарчых палатаў, на чале якіх стаялі буйныя манапалісты і банкіры. Гаспадарчыя групы і палаты былі цесна зьвязаныя з міжнароднымі картэлямі. У 1936 годзе Герынг быў прызнаны ўпаўнаважаным па правядзеньні чатырохгадовага плану. Створаныя ў гэты час устновы ператварыліся ў асноўныя органы дзяржаўна-манапалістычнага рэгуляваньня эканомікі. Закон 1933 году забараніў драбненьне большасьці зямельных надзелаў, захаваў большасьць кулацкіх (85%) і юнкерскіх (абшарніцкіх) гаспадарак.

Такім чынам, Вольфавіч папросту зьдзёр сваю эканамічную мадэль для Беларусі з мадэлі эканомікі гітлераўскай Нямеччыны. Але ж мы ўсё гэта ўжо праходзілі 79 гадоў пры бальшавіках. Гітлер вывеў Нямеччыну на першае месца ў вытворчасьці сталі, алюмінія, танкаў, самалётаў. Гэта ведаюць усе. Але менавіта пры Гітлеры ў Нямеччыне замест масла зьявіўся маргарын, эрзацкава, хлебныя карткі і эрзацхлеб. Сталін гнаў пяцігодкі, і стварыў калгасы, замучыўшы голадам толькі ў 1933 годзе 5 мільёнаў чалавек.

У канцы XX стагоддзя Беларусь, якая выраблялa мяса на душу насельніцтва больш, чым ЗША, ураджайнасьць у асобных гаспадарках якой сягала за 100 цэнтнераў з гактару (калгас «Сноў» Нясьвіжскага раёну), спазнала талоны на муку, цукар, гарэлку і інш.

Значыцца штосьці ня так з гэтым планам і фінансава-прамысловымі групамі. ЗША ня выканалі ніводнай пяцігодкі і ні адзін прэзідэнт там не падымаў сьцяг «бітвы за ўраджай», а ўсяго хапае і ўсё разьвіваецца. А разьвіваецца таму, бо ўсё ідзе паводле законаў эканомікі. Паводле гэтых законаў гаспадарка Беларусі павінна прайсьці этап драбненьня і прыватызацыі. За ім наступіць этап аб'яднаньня да разумных, аптымальных, менавіта для нашай краіны, памераў і формаў. Але Вольфавіч падказвае самаму галоўнаму славяніну іншую мадэль. Для чаго? А на гэтае пытаньне ён сам і адказвае: «Цара пачынаюць лаяць, калі ў некага іншага зьяўляюцца закіды на царства», - кажа ідэолаг расейскага імперыялізму. Захаваць усю маёмасьць Беларусі ў адных (прэзідэнцкіх) руках выгадна таму, хто можа прыватызаваць яе гуртам. А можа гэта толькі Расея.

**Станіслаў СУДНІК.**

## НОВЫ МЭР ПАЧЫНАЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ

Спроба служкаў рэжыму забараніць «ПАГОНЮ» выклікала абурэньне ў нашых чытачоў. Ужо некалькі тыдняў у рэдакцыю тэлефануюць усхваляваныя людзі, выказваюць нам падтрымку, прапануюць дапамогу. Гарадзенская арганізацыя БНФ арганізавала пікеты, на якіх зьбіралі подпісы грамадзян пад пратэстам супраць спробаў «вертыкалі» зьнішчыць нашу газету. За 8 гадзін пікетнікі сабралі каля 700 подпісаў. Нас падтрымваюць ня толькі жыхары Беларусі, але і масквічы і грамадзяне Польшчы.

Адрэагаваў на пікеты і новы мэр Горадні Анатоль Пашкевіч. У тэлефоннай размове з старшынём гарадзкой рады БНФ Кастусём Жыням, ён паабяцаў патэлефанаваць «куды трэба» і пакінуць спадара Жыня бяз працы.

**Д.К.**

## «ПРЫСЯДЗЕМ НА ДАРОЖКУ...»

Сёньня ў Смаргоні праходзіць першая з трох запланаваных старшынём аблвыканкаму Аляксандрам Дубко сустрэч з дэлегатамі на «Усебеларускі народны сход». З «напутственным» словам кіраўнік абласной «вертыкалі» зьбіраецца выступіць таксама 14 кастрычніка ў Горадні і 15 кастрычніка ў Лідзе.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ З «ПРАГІБАМ»

**Прадпрыемствы Гарадзеншчыны распачалі сапраўднае спаборніцтва за званьне найбольш «прогнувшихся» у вачох улады. Адным з лідараў у гэтай «пачэснай» справе ў Горадні пакуль зьяўляецца тытунёвая фабрыка, якая пералічыла на рахунак рэферэндуму 100 мільёнаў.**

Магчыма, такім чынам кіраўніцтва прадпрыемства спрабуе ўзьняць свой рэнамэ ў вачах прэзідэнта, які пад час візіту ў Горадню абяцаў, што справамі фабрыкі зоймецца КДБ.

## ДАЕШ ДЫКТАТУРУ!

**Гарадзенскія арганізаваныя ветэраны прапануюць запісаць у артыкул 1 праекту прэзідэнцкай Канстытуцыі, што Беларусь зьяўляецца дзяржавай «диктатуры трудового народа».**

На думку старшыні гарадзкога Савету ветэранаў Івана Абросімава, які агучыў гэтую ідэю з старонак «Гродзенскай праўды»( «Какая власть нам нужна», 8 кастрычніка 1996 г.), такім чынам *«мы сможем оградить себя от желающих облечь себя депутатскими и даже президентскими полномочиями ради «сладкой, райской жизни»*.

Усталяваньне ў Беларусі «дыктатуры пралетарыяту» дэкларавалася ў першых беларускіх Канстытуцыях савецкага часу. У адпаведнасьці з гэтым асобы «непралетарскага паходжаньня» (сьвятары, былыя афіцэры царскай паліцыі і войска, гандляры-прыватнікі і г.д.) пазбаўляліся шэрагу грамадзянскіх правоў, напрыклад, права абіраць і быць абраным у розныя органы ўлады. Усеагульнае ж выбарчае права ў Беларусі бальшавікі ўвялі толькі ў 1937 годзе, калі махавік рэпрэсій у Савецкай Беларусі дабіваў апошніх «непралетараў».

Дык на які шлях скіроўвае нас сп.Абросімаў?

## «ОРГАНЫ» БЯРУЦЦА ЗА ПЯРО

Ужо ў гэтым месяцы ў Горадні павінна ўбачыць сьвет новае перыядычнае выданьне - «Міліцэйскі весьнік». Заснавальнікамі газеты, якая будзе выдавацца на беларускай і расейскай мовах, зьяўляюцца Управа ўнутраных справаў аблвыканкаму і калектыў рэдакцыі.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## БАТАРЭІ ПРОСЯЦЬ ЦЯПЛА

**Гараджане ўжо некалькі тыдняў пакутуюць ад холаду ў кватэрах. Кожны дзень, вярнуўшыся з працы, людзі з надзеяй дакранаюцца да батарэяў у сваіх кватэрах, але расчараваны ідуць на кухню, каб запаліць газ і сагрэцца.**

Гарадзенскія цепласеткі гатовыя даць цяпло ў нашы кватэры. Але энэргетыкі павінны атрымаць загад ад гарадзкіх уладаў.

Намесьнік старшыні гарвыканкаму Іван Ціток, ад якога залежыць разьвязваньне гэтага пытаньня, сказаў карэспандэнту «ПАГОНІ», што згодна з правіламі ацяпленьне жытла пачынаецца пасьля таго, як тэмпература паветра на вуліцы больш 5-і дзён пратрымаецца ніжэй за 8 градусаў. У канцы верасьня такіх дзён было восем. Але гідраметэацэнтр прадказаў на пачатак кастрычніка пацяпленьне. Таму цяпло не ўключылі.

Калі ў бліжэйшыя дні пахаладае, спадар Ціток абяцае падаць на разгляд выканкаму праект пастановы аб пачатку ацяпляльнага сезону.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## НАРОДНЫ ФРОНТ ПАДСТРАХАВАЎСЯ

**5 кастрычніка ў Менску прайшлі Соймы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Партыі БНФ.**

Сойм БНФ «Адраджэньне» разглядзеў палітычную сітуацыю ў краіне на фоне апошніх падзеяў. Сойм ацаніў апошнія разнагалосьсі ў каманьдзе Лукашэнкі, як хітры палітычны ход дзеля пашырэньня манеўровага поля. Уяўнасьць ціску на прэзідэнта з боку яго бліжэйшых паплечнікаў дае таму больш-менш прыстойную выкрутку для кампрамісу. Магчымую ўяўнасьць ціску на прэзідэнта можа стварыць і «народны сход» 19 кастрычніка, які паводле сцэнару, распрацаванага ў ведамстве Замяталіна, «папросіць бацьку» памірыцца з парламентам. Дарэчы, пра магчымасьць апошняга сьведчыць і заява самога Лукашэнкі, які раптам даў згоду на перамовы па праекце Канстытуцыі. Але распрацоўваецца і сцэнар «усенароднай падтрымкі» рэферэндуму на 7 лістапада . Гэта на той выпадак, калі «бацька запусьціць цуглі».

Улічваючы гэта, Сойм расставіў акцэнты на пытаньнях адносінаў да рэферэндуму. У прыватнасьці, было адзначана, што агітацыю за байкот рэферэндуму 7 лістапада можа і трэба весьці адкрыта і ад імя Фронту, раз рэферэндум 7 лістапада незаконны і ніякай юрыдычнай адказнасьці за публічныя заклікі да яго байкоту наступіць не можа.

Была падтрыманая пазіцыя Лідзкай арганізацыі БНФ: у выпадках, калі чалавек з той ці іншай прычыны ня можа байкатаваць рэферэндум і вымушаны будзе пайсьці на яго, то заклікаць такіх людзей выплюхваць усё: і «за» і «супраць» па ўсіх пытаньнях, правесьці своеасаблівы «народны нулявы варыянт». Гэта дае магчымасьць унікнуць усялякай блытаніны.

Сойм Партыі БНФ, улічыўшы тое, што грошы Цэнтральнай выбарчай камісіі пералічаны і давыбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адбудуцца, выканаў тэхнічную працу па вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету па вольных яшчэ акругах. Разам з тым Сойм пацьвердзіў сваю пазіцыю ў выпадку, калі дата рэферэндуму і давыбараў супадзе. Пры такім варыянце Партыя БНФ удзелу ў выбарах прымаць ня будзе і сваіх кандыдатаў здыме.

Сойм БНФ «Адраджэньне» вызначыў нормы прадстаўніцтва на Кангрэс дэмакратычных сілаў 18 кастрычніка: па адным дэлегаце ад кожнай фронтаўскай партыйнай і грамадзкай арганізацыі раённага роўню. Прадстаўніцтва ўсіх арганізацый БНФ на вулічнай акцыі 19 кастрычніка павінна быць максімальным.

**Станіслаў СУДНІК.**

## СМАРГОНЦЫ СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ

**На Смаргонскім заводзе аптычнага станкабудаваньня адбылася канферэнцыя працоўнага калектыву па вылучэньні дэлегатаў на прэзідэнцкі ўсебеларускі сход прыхільнікаў яго праекту Канстытуцыі.**

Удзельнікі канферэнцыі вылучылі кандыдатуру намесьніка старшыні Смаргонскай арганізацыі партыі БНФ Ягора Лявіцкага.

У сваім выступе перад галасаваньнем ён адзначыў, што лічыць прэзідэнцкі праект Канстытуцыі ганебным для беларускага народу і выказаў згоду быць дэлегатам толькі ў тым выпадку, калі ягоную пазіцыю падтрымае калектыў. Прасіў таксама ў выпадку абраньня дэлегатам сходу абавязкова пазначыць у анкетных дадзеных, што ён зьяўляецца сябрам БНФ.

І вось што паказалі вынікі галасаваньня, якое адначасова стала праверкай рэйтынгу прэзідэнкага праекту. З 190 дэлегатаў канферэнцыі толькі 22 выказаліся супраць кандыдатуры Ягора Лявіцкага.

З ўсяго відаць, асноўнае прэзідэнцкае пытаньне на рэферэндуме у Смаргоні лясьнецца. У гэтым рэчышчы можна разглядаць і паводзіны старшыні Смаргонскага гарвыканкаму Ільлі Рака, які на працягу тыдня пасьля адзначаных падзеяў на заводзе падаў у адстаўку.

Як вядома, завод адносіцца да катэгорыі нерытмічна працуючых, дзе працоўныя не атрымалі зарплату нават за чэрвень. Таму ўдзельнікі канферэнцыі былі вельмі абураныя адносінамі да заводу Гарадзенскага аблвыканкаму. На пытаньне, чаму на зварот калектыву ў аблвыканкам аб дапамозе няма ніякага рэагаваньня, прысутны на канферэнцыі прадстаўнік аблвыканкаму адказаў, што калі Вы зьвярталіся да галоўнага «вертыкальнага» Дубко, то ў яго і пытайцеся.

Вось так «вертыкаль» размаўляе з народам.

Аб якім жа падтрымваньні прэзідэнта і ягонага праекту Канстытуцыі можа ісьці гаворка?

**Алесь ДЗЕРГАЧОЎ.**

## МЕСЦА ЗБОРУ - ПЛЯЦ ЯКУБА КОЛАСА

8 кастрычніка ў Менскім гарвыканкаме прайшлі чарговыя перамовы з сябрамі аргкамітэту па праводжаньні нацыянальнагу кангрэсу ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры. З боку арганізатараў пры тым былі Генадзь Карпенка, Юры Захаранка, Аляксандр Бухвостаў, Станіслаў Багданкевіч і Юры Беленькі. Вёў паседжаньне старшыня выканкаму Уладзімір Ярмошын. Акрамя кангрэсу ў абарону Канстытуцыі арганізатары запланавалі правесьці 19 кастрычніка шэсьце ад пляцу Якуба Коласа да пляцу Парыжскай камуны (ля опернага тэатру). Нягледзячы на катэгарычную адмову гарадзкіх уладаў на праводжаньне шэсьця, арганізатары заявілі, што яно адбудзецца ўва ўсякім выпадку. Пасьля кароткіх перамоваў улады ўсё ж пагадзіліся на праводжаньне шэсьця, але яго маршрут пакінулі на дапрацоўваньне сп.Захаранку і начальніку сталічнай міліцыі сп.Тарлецкаму. На гэты мітынг-шэсьце арганізатары плануюць сабраць недзе каля 100 тысяч чалавек.

Кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры будзе праходзіць 18 і 19 кастрычніка ў менскім Палацы прафсаюзаў. Рэгістрацыя ўдзельнікаў пачнецца ў пятніцу (18 кастрычніка) а 11-й гадзіне. Чытачом «ПАГОНІ» нагадаю, што гэты кангрэс праводзіцца як альтэрнатыўны Усебеларускаму народнаму сходу «вертыкальнікаў» і прэзідэнта.

**Людвік ВАЛЫНЕЦ,**

## ВЫБАРАЎ У ЛІДЗКІ ГАРСАВЕТ НЯ БУДЗЕ

Пра гэта заявіў старшыня Лідзкага гарсавету спадар Аляксандр Рамановіч пры сустрэчы з старшынём Лідзкай рады БНФ «Адраджэньне» Станіславам Суднікам 4 кастрычніка гэтага году. Прычына, з якой спадар Рамановіч спрабуе ўзурпаваць уладу і расьцягнуць паўнамоцтвы старога Савету на дзесяць гадоў - немень грошай на выбары. Разам з тым ня лішне адзначыць, што менавіта спадар Рамановіч з сваім Саветам фармаваў бюджэт гораду на 1996 год, і менавіта спадар Рамановіч не заклаў у гэты бюджэт патрэбныя грошы. Менавіта спадар Рамановіч парушае Закон аб мясцовым самакіраваньні і менавіта спадару Рамановічу разам з вертыкальлю давядзецца несьці за гэта крымінальную адказнасьць. Ніякія спасылкі на брак указаньняў з вобласьці суд ня ўлічыць.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## «ГРАМАДЗЯНЕ» НАСТРОЕНЫ ЦЬВЁРДА

У Менску 5 кастрычніка прайшоў другі зьезд Аб»яднанай грамадзянскае партыі. У сваёй рэзалюцыі «Аб палітычнай сітуацыі і задачах партыі» «аб'яднаныя грамадзяне» яшчэ раз сьцвердзілі, што адхіленьне законнымі спосабамі ад улады Прэзідэнта Лукашэнкі зьяўляецца сёньня ня толькі барацьбой за дэмакратычнае разьвіцьцё краіны, але і ператвараецца ў фактар нацыянальнага выратаваньня.

У сваім выступе лідар партыі зьвярнуў асноўную ўвагу на той востры эканамічны і палітычны крызіс, які зараз перажывае Рэспубліка Беларусь. Сп.Багданкевіч лічыць, што менавіта правалы ў эканоміцы змушаюць Лукашэнку ісьці на ўсялякія парушэньні Канстытуцыі і законаў. Гледзячы на прэзідэнта, і іншыя чыноўнікі ўсё часьцей у сваёй палітыцы замяняюць права сілай.

Дэлегаты ў сваіх выступах неаднаразова казалі, што насуперак усяму рэйтынг Аб'яднанай грамадзянскай партыі стала расьце, у сьведамасці многіх людзей АГП дагэтуль застаецца партыяй эліты, хаця ўзапраўды яна павінна ператварыцца ў партыю падаткаплацельнікаў.

На зьездзе быў зацьверджаны сьпіс кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету ад АГП. Сярод іх вельмі шмат ведамых і даволі ўплывовых людзей Беларусі, шмат былых «сілавікоў», прадпрымальнікаў.

Цікавасьць выклікала паведамленьне С.Багданкевіча пра тое, што Пракуратура Беларусі адмовіла прэзідэнту А.Лукашэнку ў узбуджэньні крымінальнай справы супраць былых кіраўнікоў Нацыянальнага банку краіны, бо Пракуратура не знайшла ў іх дзеяньнях складу злачынства.

«Каментаваць тут няма чаго, — заявіў сп.Багданкевіч. — Узвялі паклёп на ўсю Беларусь, а адказ з Пракуратуры даставілі цішком. Зрэшты мяне гэта не зьдзіўляе. Напэўна ўжо ўсе зразумелі, што бяздоваднная крытыка — галоўная зброя нашага прэзідэнта».

**Людвік Валынец.**

## НЯМЕЧЧЫНА. ГІТЛЕР. РЭФЕРЭНДУМ

**Рэферэндум, або плебісцыт, - гэта сьпецыфічны спосаб парушэньня Закону. Ужываецца тады, калі законным шляхам нельга разьвязаць нейкую праблему ў краіне. Таму, напрыклад, у Злучаных Шататах, дзе Закон і Канстытуцыя вышэй за ўсё, агульнанацыянальныя рэферэндумы забароненыя зусім. У дэмакратычных краінах ужываюцца, як выняткі. Іншая рэч краіны таталітарныя. Тут дыктатар або мае неабмежаваныя магчымасьці для маніпуляцыі думкай усяго грамадзтва ,або яго часткі. У апошнім выпадку нязгодную частку трэба адкінуць, нават калі гэтая часта ўлучае парламент, Канстытуцыйны суд, палітычныя партыі.**

Выступаючы ў Горадні, Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Ня думайце, што палітыку робяць нейкія там партыі. Палітыку робіць Прэзідэнт і народ». Такім чынам усе астатнія палітычныя сілы адмятаюцца з палітычнай арэны. У 1933 годзе, захапіўшы ўладу ў Прусіі, Герман Герынг казаў: «Гэтую барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць я вяду разам з нізамі». Акрамя нізоў у Герынга было гестапа і штурмавікі. У Лукашэнкі ёсьць 135 тысяч міліцыі, КДБ, войска. Не хапае нізоў з крыкамі «Адабрам». Гэтае «адабрам» ён і хоча атрымаць на рэферэндуме.

Таталітарны рэжым заўсёды можа выйграць усякі рэферэндум. У Азіі гэта робіцца паводле мадэлі Садама Хусэйна. Там проста зрабілі бюлетэні, у якія ўпісвалі прозьвішча і імя таго, хто галасуе. 99,9% «за» Садам Хусэйн атрымаў без праблемаў.

Беларусь знаходзіцца ў Еўропе. Таму нам больш цікавыя татальныя рэферэндумы еўрапейскай мадэлі. Пасьля прыходу да ўлады ў Нямеччыне Гітлер імгненна расправіўся з рэйхстагам, партыямі, прафсаюзамі, інтэлігенцыяй, арыстакратамі і сваімі асноўнымі памочнікамі -штурмавікамі Рэма. У свой час казалі, што Эрнст Рэм стварыў Гітлера, за што заплаціў жыцьцём 30 чэрвеня 1934 году. (Беларускія Рэмы- Булахаў, Ганчар пакуль што абыйшліся адной куляй у сакратарку Ганчара.) У гэтай сітуацыі ўнутраны рэферэндум Гітлеру быў без патрэбы. Кішэнны рэйхстаг і так даваў яму ўсё, што той хацеў. Тым ня менш ён ахвотна «раіўся з народам».

Першы рэферэндум фюрэр правёў ужо ў лістападзе 1933 году. Ён запатрабаваў ад народу падтрыманьня сваёй вонкавай палітыкі, і перш за ўсё, з меркаваньня на выхад з Лігі Нацый, сяброўства ў якой абмяжоўвала яго апетыты. Гітлер атрымаў 90 працэнтаў галасоў, але ня лішнім будзе прыгадаць, што патэнцыяльна нязгодныя ўжо сядзелі на гэты момант у канцлагерох, а ровень абалваньваньня народу за няпоўны год нацысты давялі да такога роўню, што самыя памяркоўныя і інтэрнацыянальна скіраваныя глядзелі на Лігу Нацый, як зараз нашы ветэраны на НАТА.

У 1934 годзе пасьля сьмерці Гіндэнбурга (прэзідэнта Нямеччыны), урад Гітлера аб'яднаў пасады прэзідэнта і рэйхсканцлера, але ,не даючы веры парламенту, зьмеркаваў узаконіць гэтую ўзурпацыю ў яго абход і вынес пытаньне на другі рэферэндум. Ізноў 90 працэнтаў.

Трэці ,унутраны ,рэферэндум Гітлер правёў у 1936 годзе. На гэты рэферэндум ён вынес пытаньне аб адабрэньні яго палітыкі, як кіраўніка дзяржавы, і атрымаў 99 працэнтаў. У выніку гэтага рэферэндуму ўступілі Нюрнбергскія законы, якія ўзьвялі нацысцкую ідэалогію ў ранг дзяржаўнай палітыкі.

Але гэта ўнутраныя рэферэндумы. Тут на вынікі маглі ўзьдзейнічаць страх, рэпрэсіі, фальсіфікацыі.

Інакш справа выглядала на памежжы. Праграма нацысцкай партыі агадвала «вяртаньне» ўсіх нямецкіх тэрыторый і стварэньне Трэцяга Рэйху. Першай найбольш зручнай для гэтага тэрыторыяй была Саарская вобласьць. Саарская вобласьць з сваім вугальным басейнам была спрадвеку спрэчнай паміж Францыяй і Нямеччынай. У 1919 годзе яна была на 15 гадоў перададзена пад кіраўніцтва Лігі Нацый. У 1934 годзе гэты тэрмін скончыўся. Забраць яе сілай Гітлер яшчэ ня мог. Не было той сілы. Таму ён і пайшоў на праводжаньне плебісцыту, што не сустрэла пярэчаньняў у Эўропе. І калі вайсковая машына Нямеччыны яшчэ толькі набірала абароты, то машына міністра прапаганды, доктара Ёзафа Гебельса ,працавала ўжо на ўсю моц. Усе рупары нацысцкай прапаганды былі скіраваныя на Саар. Радыё, газеты, агентура. Асаблівая ўвага надавалася прапаганьдзе шэптам (Flustezpropaganda). Гэты від прапаганды, дарэчы, вынайдзены таксама Германам Герынгам, агадваў распусканьне чутак, анекдотаў, прыпевак і г.д. Flustezpropaganda аказалася вельмі эфектыўнай і была ўзятая на ўзбраеньне ўсімі сьпецслужбамі. Шырока ўжывалася ў Беларусі пад час прэзідэнцкіх выбараў, першага рэферэндуму, ужываецца і зараз.

Эфектыўнасьць работы машыны Гебельса ў Саары была ашаламляльнай. Плебісцыт 1935 году даў лічбу ў 91% за далучэньне да Нямеччыны. І праца была праведзена настолькі якасна, што калі пасьля вайны Саарская вобласьць адыйшла да Францыі, а ў 1955 годзе там ізноў правялі рэферэндум, то ізноў большасьць прагаласавала за далучэньне да Нямеччыны. З 1 студзеня 1957 году Саар у складзе ФРГ.




Наступнай тэрыторыяй стала Аўстрыя. Ідэя аншлюсу і далучэньня Аўстрыі да Нямеччыны вісела ў паветры з канца першай сусьветнай вайны. 12 лістападу 1918 году часовы нацыянальны сход Аўстрыі з ініцыятывы сацыял-дэмакратаў абвясьціў Аўстрыю складовай часткай Германскай рэспублікі, але большасьць насельніцтва не падтрымала аншлюс. Аўстрыя засталася самастойнай. У 1931 годзе быў распрацаваны Праект мытнага хаўрусу паміж Аўстрыяй і Нямеччынай (халодны аншлюс), але ўмяшаньне шэрагу заходніх краін сарвала яго. Пасьля прыходу Гітлера да ўлады асноўныя партыі Аўстрыі памянялі сваё стаўленьне да аншлюсу на супрацьлеглае, але на Аўстрыю пачала працаваць машына Гебельса. Агенты гестапа навадніілі Аўстрыю. Flustezpropaganda спалучалася з афіцыйнай. Але супраць аншлюсу быў Мусаліні, які меў свае закіды на Аўстрыю. У канцы 1937- пачатку 1938 году Гітлер дамогся згоды Мусаліні і на гэты раз не сустрэў пярэчаньняў з боку ЗША і Англіі. Вонкавапалітычны аншлюс быў забясьпечаны. Засталося пераступіць праз Канстытуцыю і суверэнітэт Аўстрыі. Для гэтага на 13 сакавіка 1938 году і быў прызначаны плебісцыт. У лютым Гітлер прымусіў пайсьці ў адстаўку урад К.Шушніга. У ноч з 11 на 12 сакавіка для кантролю «за свабодным волевыяўленьнем народа» у Аўстрыю ўвайшлі нямецкія войскі. Вынік плебісцыту класічны - 99% за аншлюс. Тыя самыя аўстрыйцы, якія не захацелі далучацца да дэмакратычнай Нямеччыны 1918 году, пагалоўна далучыліся да Нямеччыны гестапа і канцлагераў 1938 году.

Вось у прынцыпе і ўсё пра рэферэндумы. Далей Чэхаславакія і 1939 год.

Аўстрыйцы ўвагналі сваю краіну ў вайну амаль аднадушна і зараз ня важна, сфальсіфікаваў там Гітлер 10% ці не. Важна тое, што думка нават 99% насельніцтва можа быць памылковай , калі яна фармуецца прапагандысцкай машынай таталітарнай дзяржавы.

**Станіслаў СУДНІК.**







## СУСТРЭНЕМСЯ Ў ФРАНКФУРЦЕ

**З 2 па 6 кастрычніка ў Познані ў рамках традыцыйных сустрэч польскай і нямецкай моладзі адбылася першая частка семінару, прысьвечанага параўнальнай характарыстыцы сацыяльнай палітыкі ўрадаў Польшчы і Нямеччыны.**

Акрамя арганізатараў - маладых сацыял-дэмакратаў Польшчы і Нямеччыны -на семінары былі маладыя лібералы з Уніі Вольнасьці, маладыя дзеячы прафсаюзаў і партыі Салідарнасьць, прадстаўнікі грамадзкіх аб'яднаньняў.

У якасьці назіральнікаў арганізатары ўпершыню запрасілі прыняць удзел у семінары двух прадстаўнікоў Беларусі : сябру Гарадзенскага гарадзкога Савету Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) Алеся Пагуляева і старшыню праўленьня Гарадзенскай Асацыяцыі маладых навукоўцаў «Віт» Сяргея Салея.

На семінары абмяркоўвалі сацыяльныя праблемы моладзі, стан маладзежнага і прафсаюзнага руху ў Польшчы. З удзельнікамі семінару сустрэліся намесьнік старшыні Найвышэйшай Рады прафсаюзаў Салідарнасьць Вялікапольшчы Мацей Анджыеўскі, доктар сацыялагічных навук Станіслаў Закшэўскі, прадстаўнікі органаў улады і журналісты.

Вельмі зьдзівіла і ўразіла зацікаўленасьць і інфармаванасьць удзельнікаў семінару аб падзеях у нашай краіне. На іх просьбу гарадзенцамі была прачытаная лекцыя аб дзейнасьці палітычных партый і грамадзкіх аб'яднаньняў у Беларусі, пасьля якой адбылася цікавая дыскусія. Польская і нямецкая моладзь выказалася за разьвіцьцё супрацоўніцтва як з палітычнымі, так і з грамадзкімі арганізацыямі ў Беларусі. Ужо дасягнутая дамова аб правядзеньні ў траўні 1997 году трохбаковага польска-нямецка-беларускага семінару ў Франкфурце.

**Ул.інф.**

## КАНГРЭС СЛАВЯНСКАЙ АРХЕАЛОГІІ

**У расейскім горадзе Ноўгарадзе адбыўся шосты міжнародны Кангрэс славянскай археалогіі. На яго сабралася каля 350 ўдзельнікаў з 25 краінаў.**

**Гэтыя кангрэсы праводзяцца з 1965 году паводле ініцыятывы польскіх археолагаў праф. Вітальда Хенселя і леха Ліцьевіча. Аднак пасьля 1985 году, калі кангрэс сабраўся ў Кіеве, адбыўся перапынак. Сёлета ўдалося зноў сабраць сьпецыялістаў па гісторыі славяншчыны.**

**Асноўнымі тэмамі, якія разглядаліся на кангрэсе, былі: станаўленьне славянскіх народнасьцяў, паходжаньне славянскага гораду, этна-генетычныя праблемы Усходняй Еўропы ў раньнім Сярэднявеччы.**

Вынікі кангрэсу каментуе яго ўдзельнік, дацэнт **Генадзь СЕМЯНЧУК:**

- Галоўным станоўчым вынікам можна назваць тое, што быў зроблены яшчэ адзін крок у разбурэньні штучнай канцэпцыі існаваньня нейкага «монстрУ» - старажытнарускай народнасьці як цэлага народу, які існаваў, а потым невядома чаго падзяліўся на беларусаў, украінцаў і велікаросаў. Канкрэтныя археалагічныя факты, новыя метадалогіі дазваляюць разглядаць усходнеславянскую этнічную агульнасьць у раньнім сярэднявеччы не як палітычную еднасьць (поліэтнонім), а як складаны кангламерат шматлікіх этнасаў.

Другім момантам стала паглыбленьне паглядаў на паходжаньне гарадоў у Усходняй Еўропе. Раней лічылі, што большасьць старажытных гарадоў (Кіеў, Ноўгарад, Полацк) развіваліся з племянных цэнтраў. Аднак дасьледзіны археолагаў (менавіта археалогія дае на нашай тэрыторыі пераважную большасьць фактаў, бо пісьмовыя крыніцы вельмі фрагментарныя: малаінфармацыйныя) паказалі, што працэс стварэньня гарадоў быў больш разнастайны.

Сёньня ўжо ніхто не адмаўляе, што балцкія народы актыўна ўдзельнічалі ў фармаваньні беларускага народу. Фіна-ўгорцы - у фармаваньні вялікарускага этнасу.

***- Што можна сказаць пра беларускую дэлегацыю?***

- Беларуская дэлегацыя была даволі вялікая, каля 35 чалавек. Гэта сьпецыялісты Інстытуту Гісторыі Акадэміі навук, БДУ (кафедра археалогіі), прадстаўнікі Магілёва і таксама выкладчыкі Гарадзенскага універсітэта - дацэнты С.Піваварчык і А.Краўцэвіч. Быў адзначаны высокі ўзровень прадстаўленых дакладаў беларусаў і іх самастойнасьць, чаго раней не назіралася. Самае галоўнае - беларуская археалогія падымаецца з роўню здабывальніка археалагічнага матарыялу на ровень аналітыкі, тэарэтычнасьці і канцэптуальнасьці сваіх паглядаў. Польскія, расейскія, украінскія, літоўскія навукоўцы запрасілі нас да публікацыі ў сваіх выданьнях, выказалі жаданьне абменьвацца з намі інфармацыяй.

***- А што, расейскія навукоўцы пагадзіліся з сьцьвярджэньнямі аб неіснаваньні «адзінай старажытнарускай народнасьці» і «рускага горада Кіева»?***

- Ведама не. Але ў усякім выпадку яны ўступалі з намі ў дыскусію, значыцца, яны задумаліся.

***- Як быў арганізаваны кангрэс?***

- Пры ўсіх цяжкасьцях, якія былі, трэба падзякаваць Міжнароднай Славянскай Вуніі, Наўгародзкаму губернатару, рэктару мясцовага універсітэту імя Я.Мудрага, а таксама спонсарам. Гэтыя людзі не баяцца ўкладваць грошы ў разьвіцьцё навукі. А ў беларускай дэлегацыі былі сталыя фінансавыя праблемы.

**Гутарыў Сяргей САМАСЕЙ.**

## ПОЛЬШЧА Ў НАТА - БЕЛАРУСЬ У «КАМУФЛЯЖ»

**Краіны-удзельніцы НАТА ў траўні наступнага году зьбіраюцца афіцыйна запрасіць ў свой блок трох новых сяброў. Хутчэй за ўсё гэта будуць Вугоршчына, Чэхія і Польшча. Мяжа НАТА пройдзе за калькі кіламетраў ад Горадні.**

Масква ніяк ні можа пагадзіцца з тым, што Усходняя Еўропа перастала быць расейскай дзедзінай. На мінулым тыдні міністр абароны Расеі Радзівонаў заявіў, што калі НАТА пашырыцца на ўсход, яго краіна прыме адпаведныя меры, у тым ліку -ваеннага характару.

Аляксандр Лукашэнка ўцягнуў Беларусь у ССР. Мы ўжо маем агульную з Расеяй мяжу. Калі і надалей галоўным кірункам палітыкі беларускага начальства застанецца абарона інтарэсаў Расеі, магчыма ,«меры ваеннага характару» будуць ажыцьцяўляцца на нашай тэрыторыі. Беларусь можа стаць расейскай памежнай зонай, і без дазволу хлопцаў у «камуфляжы» ,з расейскімі пагонамі ,нам нельга будзе і кроку ступіць па роднай зямлі.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## МЯДЗЬВЕЖАЯ АКАДЭМІЯ

**У гісторыі Смаргоні ёсьць цікавая старонка: славіўся гэты горад сваёй мядзьвежай акадэміі. Яе заснавальнікам лічыцца князь Міхаіл-Казімір Радзівіл , багаты чалавек, які любіў усялякія ўцехі. Сваіх шматлікіх гасьцей ён зьдзіўляў вучанымі мядзьведзямі. Потым школы дрэсіраваньня зьявіліся і ў іншых месцах Смаргоншчыны.**

Тутэйшыя мясьціны да XX стагоддзя былі багатымі на мядзьведзяў, і мясцовыя жыхары здаўна палявалі на іх.Справа гэтая няпростая. Драпежніка трэба было злавіць так, каб на ім не было ні драпінкі. Паляўнічыя выходзілі на касалапых, як той казаў, сам на сам, з рагацінаю ў руках.

Як іх вучылі? Выкопвалі глыбокую яму, на дно клалі ламачча, на яго сталі металічную пласьціну альбо ставілі металічную скрынку. Мядзьведзю надзявалі на заднія лапы драўляныя калодкі, пярэднія пакідалі свабоднымі і апускалі ў яму. Ламачча падпілоўвалі, металічнае дно награвалася, зьверу станавілася горача, і ён інстынктыўна ўставаў, пачынаў тупаць заднімі лапамі, а пярэднія цягнуў угору.

«Навука» суправаджалася звонам бубна. Так паўтаралася, пакуль не замацоўваўся ўмоўны рэфлекс. Затым «студэнта» даставалі з ямы, садзілі ў клетку, але як толькі мядзьведзь чуў звон бубна, ён падымаўся на заднія лапы і пачынаў тупаць імі.

**Ю.ШАСТАК**

## КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*



**Па гарызанталі:** 7.Противовес. 8.Учебник. 9.Защита. 11.Блюдо. 12.Полка. 14.Смотритель. 17.Задвижка. 18.Прощание. 19.Кипяток. 20.Лихорадка, малярия. 24.Случай. 25.Копоть. 26.Ольха. 31.Свет. 32.Крестоносец. 33.Горечь. 34.Исчезновение. 35.Кладбище.

**Па вертыкалі:** 1.Убежище, приют. 2.Планка. 3.Изгиб. 4.Старина. 5.Череп, башка. 6.Сияние. 10.Борозда. 13.Расписание. 14.Справка. 15.Цесарка. 16.Родословная. 21.Штопанье. 22.Вишенник. 23.Изгнанник. 27.Починка. 28.Настроение. 29.Близнец. 30.Капля.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары:**

**Па гарызанталі:** 3.Смага. 4.Брама. 6.Сып. 9.Чарот. 10.Ложак. 12.Жыхар. 13.Колер. 14.Рамонак. 16.Шруба. 17.Зыбка. 19.Лазьня. 21.Нізка. 27.Капліца. 28.Зорка. 30.Лопат. 31.Адлік. 32.Аплік. 33.Аер. 34.Праца. 35.Выбар.

**Па вертыкалі:** 1.Качар. 2.Ранак. 5.Ажына. 6.Стома. 7.Плынь. 8.Глеба. 9.Чабор. 11.Кошык. 14.Рабунак. 15.Крыніца. 16.Шал. 18.Аса. 20.Асака. 22.Куток. 23.Згода. 24.Спёка. 25.Віхар. 26.Араты. 29.Адчай. 30.Лічба.

## ЗЬБІРАЕ ПАНІ ЭЛІЗА...

**Сёньня ў Горадні пачала працаваць міжнародная навуковая канферэнцыя «З малой Горадні да вялікага Сьвету. Літаратурная і грамадзкая дзейнасьць Элізы Ажэшкі».**

Арганізатармі імпрэзы зьяўляюцца Камітэт памяці Элізы Ажэшкі, абласная бібліятэка імя Карскага, гарадзенскі універсітэт, аддзел культуры гарвыканкаму і Саюз палякаў Беларусі.

Удзел у канферэнцыі, якая будзе працаваць да 13 кастрычніка, бяро цэлы шэраг вядомых навукоўцаў з Беларусі і Польшчы. Пад час канферэнцыі запланавана вандроўка ўсіх удзельнікаў па мясьцінах, зьвязаных з жыцьцём і дзейнасьцю адной з найзнакаміцейшых постацяў гісторыі Горадні.

**В.АНІМУЦКІ.**

## МАЛЮЮЦЬ ДЗЕЦІ

На мінулым тыдні ў кінатэатры «Гродна» адкрылася выстава малюнкаў вучняў 6-7 класаў СШ N 5 «Абрады і сьвяты беларусаў», падрыхтаваная супрацоўнікамі Абласнога навукова-метадычнага цэнтру народнай творчасьці. Экспанаваныя малюнкі - вынік трогхадовага вывучэньняя эксперыментальнага курсу Беларусазнаўства, які выкладае ў гэтай школе Алена Паўлава.

**А.АЎЧЫНЬНІКАЎ.**

## БЕЛАРУСЬ ЧАКАЕ НОВАГА ПОЛЬСКАГА АМБАСАДАРА

У бліжэйшы час пасаду амбасадара Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь займе былая шэфова афіцыйных прафсаюзаў пані Эва Спыхальска. Дзеля гэтага ёй прыйдзецца скласьці паўнамоцтвы ў Сойме Рэчы Паспалітай.

Нейкі час польскія газеты паведамлялі пра выказваньне пані Спыхальскай аб месцазнаходжаньні Беларусі. Яна сьцьвярджала, што наша краіна месьціцца паміж Дняпром і Віслай. З свайго боку, будучы амбасадар абяцала вывучыць беларускую мову.

З усяго відаць , польскі ўрад падабраў амбасадара ў адпаведнасьці з норавамі менскага двара.

**С.С.**

## МЕТАР БЕЛАРУСКІ

**Сёлета спаўняецца 230 гадоў заканадаўчых уводзінах у Беларусі метрычнае сістэмы.**

Гэта яшчэ былі ня звыклыя нам метры, кілаграмы, літры, але Соймавая пастанова 1766 году стандартызавала старыя меры стварыўшы ўнікальную метрычную сістэму. З летапісаў ведама, што ў Беларусі былі свае меры, прыкладам, беркавец - адзінка вагі, валока, гон, цаля, лашт, тахром, цэтпар, бочка цэлая. Асаблівасьцю гэтых мераў было тое, што, скажам, тая ж бочка была ў кожным буйным гандлёвым горадзе свая. Сістэма 1766 года аб'ядноўвала меры х групы: мера даўжыні, плошчы, вагі, меры на сыпкія і вадкія рэчывы. За аснову адзінкі даўжыні быў прыняты локаць - 0,65 м, або 24 цалі. Пры зямельных вымярэньнях ужывалі шнур - 75 локцяў, прут - дзесятая частка шнура, пруцік - дзесятая частка прута. Адлегласьць мералася на вёрсты. Адна вярста 798 сажняў або 1500 метраў. Ужываліся і мілі. Адна міля - пяць вёрстаў. Сажань складаўся з трох локцяў.

Асноўнаю мерай плошчы была валока. Яна складалася з 30 моргаў, або 90 шнуроў. Квадратны шнур меў 100 кв.прутоў. Згодна з традыцыяй існавалі ланы, стаі, загоны.

Для сыпных рэчываў карысталіся такімі адзінкамі: бочка на 406 літраў дзялілася на 4 чвэрці, 8 асьмін, 16 шаснастак або паўасьмінаў, 72 гарцы вялікія і 144 гарцы малыя (гарнец малы - 2,8 літра). Такія ж гарнец і бочка выкарыстоўваліся і для вадкасьцяў з дадаткам іншых адзінак: чаша - 6 вялікіх гарцаў (33,6 л), кварта - палова малога гарца (1,4 л), паўкварта (звыклыя на 0,7).

Адзінкай вагі быў фунт (375 г), а таксама беркавец або цэптар - 5 камянёў, камень - 40 фунтаў.

Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі пачалося мусовае ўводжаньне ньне расейскай метрычнай сістэмы (сажні, аршыны, вяршкі, пуды, фунты, лдоты і інш.). Але яшчэ доўгі час ужывалі і старую. У прыватнасьці, валока, паўвалока, кварта, паўкварта, паўасьміна - гэтыя меры дажылі да сярэдзіны нашага стагоддзя, а паўасьміна ўжываецца і зараз.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**




**11 кастрычніка**

**1866 г.** Нарадзіўся Сяргей Галюн (130 гадоў таму), лекар гарадзенскага вайсковага шпіталю, адзін з заснавальнікаў сацыял-дэмакратычнай арганізацыі.



**1909 г.** У Горадні нарадзілася Зінаіда Бандарына, вядомая паэтка і руплівіца на беларускай культурнай ніве.

**13 кастрычніка**

**1806 г.** У Вільні нарадзілася Эмілія Плятэр (190 гадоў таму), легендарная гераіня лістападаўскага (1830 г.) паўстаньня, апетая Адамам Міцкевічам. Яе імя насіла Гарадзенская жаночая гімназія.



**14 кастрычніка**

**1810 г.** Нарадзіўся Г.Махоўскі, вядомы скульптар, удзельнік вызвольных паўстаньняў 1830-31 і 1863-64 гг.

**15 кастрычніка**

**1817 г.** Памёр Тадэвуш Касьцюшка, славуты кіраўнік вызвольнага чыну 1794 г., нацыянальны герой некалькіх дзяржаваў. Быў пахаваны ў Салюрах (Швайцарыя), пазьней парэшткі перанесеныя ў Кракаў.

**16 кастрычніка**

**1896 г.** Памерла Марыя Багдановіч (Мякота) (100 гадоў таму), маці Максіма Багдановіча. Пахавана на праваслаўных гарадзенскіх могілках.

**1955 г.** У Ашмянах пачаў працаваць краязнаўчы музей імя Францішка Багушэвіча.

**17 кастрычніка**

**1865 г.** Нарадзіўся Люцыян Жалігоўскі, знакаміты палітычны і вайсковы дзеяч, генерал. Паходзіў з Ашмянаў.

**18 кастрычніка**

Дзень сьвяткаваньня 400-х угодкаў Берасьцейскай царкоўнай вуніі (1596 г.)

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

 СПОРТ 

# ЛІДЗКІХ ХЛОПЦАЎ ДЫБА НЕ ПАЛОХАЕ

**Напачатку было кепска. І кепска было вельмі. Хлопчык-»трысьцінка» Віталь Кучарэнка (48 кг) за тры хвіліны 50 секунд здаўся каржакаватаму Алегу Урусмамбетаву. Аляксандр Паўлаў (52 кг) ня здолеў узяць нават балу ў паядынку з Барысам Амбарцумавым (0:6), а Расім Нафталіеў (57 кг) прайграў 1:3 Валерыю Ніканораву. Так правальна для гарадзенцаў 6 кастрычніка пачалася сустрэча 1/8 Кубка Еўропы па грэцка-рымскай барацьбе супраць каманды «Масквіч» з сталіцы Расеі.**

Асабліва крыўднай, а галоўнае, нечаканай была параза Паўлава. І нават дыплом Міжнароднай федэрацыі барацьбы за «срэбра» Алімпіяды з рук галоўнага трэнера зборнай Беларусі Камандара Маджыдава і ордэр на кватэру ад новага мэра Горадні Анатоля Пашкевіча наўрад ці ў гэты дзень моцна суцешылі Аляксандра.



Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.

Анатоль Федарэнка праводзіць [illegible]м.

Першую перамогу (3:0) для нашага «Універсітэту-ШВСМ» прынёс Аляксандр Беляхоўскі (62 кг). Добра выглядаў на дыване і Эдуард Аплевіч (68 кг). Але яго суперніку, Алегу Блахіну, пашанцавала больш - 2:3. Потым на ўласным прыёме папаўся пад суперніка Андрэй Ліра (74 кг) - 0:5. І перад завяршальнымі чатырма паядынкаамі лік стаў 1:5 на карысьць Масквы. Адступаць не было куды.

Разумеў гэта, безумоўна, і Валеры Ціленьць (82 кг), калі выходзіў на дыван, дзе яго ўжо чакаў масквіч Аляксандр Дыба. Выхаванцу лідзкай школы барацьбы хапіла 3 хвілінаў 23 секундаў, каб арбітры зафіксавалі поўную перавагу нашага атлета - 10:0. Не такой яркай, але даволі ўпэўненай (3:0) выглядала перамога Аляксандра Сідарэнкі (90 кг). Перад завяршальнымі двума паядынкамі - 3:5 на карысьць Масквы.

...Калі на пачатку сустрэчы нашага ветэрана Анатоля Федарэнкі (100 кг) яго супернік, удзельнік Алімпіяды ў Атланьце Таймураз Едзішэрашвілі, павёў у ліку 4:0, уся зала прыціхла. І толькі славуты цяжкаатлет Аляксандр Курловіч не пераставаў заахвочваць Федарэнку: «Толя, «выбухні»!» І Толя «выбухнуў» двума запар прыёмамі і параўняў лік. Дадатковыя 3 хвіліны пераможцу ня выявілі, але больш, на думку арбітраў, хацеў гэтай перамогі Федарэнка. Лік скарачаецца да мінімуму, але мала хто верыць у цуд: маладому гарадзенцу Сяргею Сілічу (130 кг) супрацьстаяў спрактыкаваны чэмпіён сьвету, удзельнік Алімпіяды, Гурам Гедэхаўры. Асноўныя 5 хвілін мінаюць, а на табло нулі, і больш атакуе Сіліч. Ёсьць надзея на нічыю? Дадатковыя 3 хвіліны лік не зьмяняюць, але Гурам удала імітуе «актыўнасьць», і арбітры перамогу аддаюць яму.

З лікам 6:4 у першай сустрэчы перамагаюць госьці. Але роўны характар большасьці з прайграных гарадзенцамі паядынкаў пакідае «Універсітэту_ШВСМ» пэўныя шанцы перад адказнай сустрэчай у Маскве 19 кастрычніка.

**Вітаўт РУДНІК.**



## ДУШ ШАРКО ДЛЯ «АЎТАМАБІЛІСТАЎ»

**«Гродна-93» - «Аўтазаводзец-Джэньці» - 94:70 (Шарко - 28 ачкоў, Маклакоў - 19, Якубенка - 28, Пустагвар - 22) і 91:75 (Шарко - 26, Маклакоў - 22, Чарняк - 19, Пустагвар - 33, Якубенка - 23).**

Здаецца, пераможны настрой ужо ў крыві гарадзенскіх баскетбалістаў. Нягледзячы на катастрафічныя страты ў складзе, яны працягваюць граміць супернікаў. Відавочна, што настрою паддаў і факт узнагароджаньня перад першым матчам значкамі і пасьведчаньнямі майстроў спорту.

Для «Аўтазаводца» (клуб «Каму далёка за 30») гэта быў старт у чэмпіянаце. У дэбюце гаспадары закруцілі такую карусель атакаў, ажно ў сталічнікаў галава пайшла кругам. Пазьней трэнер Яўген Кец заўважыць, што гэта якраз тая гульня, якую ён вызнае і мае памкненьне прышчапіць сваім выхаванцам. Да таго ж чэмпіёны дэманстравалі амаль абсалютны працэнт трапнасьці. Адрыў у ліку няўхільна рос - 15:5, 25:10, 44:20 і 57:31 (перад перапынкам). Злавіў сапраўдны кураж наш капітан Уладзімір Шарко, «паліваючы» чужы шчыт з любых дыстанцыяў. Часамі ён проста зьдзекаваўся з мазаўскіх «мэтраў». Апошнія выглядалі самавіта, але ім бракавала рухавасьці. Плённа змагаўся пад шчытамі Юры Качан, удала выходзіў на замену Аляксандр Нарушэвіч (адна з надзеяў сезону). Адзінае, што трывожыла - хутка нахапаў фалоў атакуючы абаронец Юры Чарняк. У сярэдзіне другога тайму ён пакінуў пляцоўку, але «Гродна-93» кантралявала становішча, гуляючы ўжо ня столькі эфектна, колькі надзейна. Сімвалічна, што кропку паставіў дэбютант - юны Віталь Паўловіч (першыя два ачкі для каманды). Перамогу нядзельнага дня адэкватна можна назваць працоўнай. Ад гэтага яна ня сталася менш упэўненай. Аўтазаводзкія «пеньсіянеры» выглядалі ўдарна, але ўзладжанай калектыўнай гульні гаспадары узялі верх. Дырыжаваў плэймэйкер Шарко, вельмі прадуктыўна змагаўся Віталь Маклакоў, «завёўся» Чарняк. Апошні даў нам экспрэс-інтэрв'ю:

***- Юры, пасьля адыходу Грыгор'ева, вы - старажыл каманды...***

- Гэта накладвае дадатковую псіхалагічную адказнасьць. Але мікраклімат у каманьдзе і адносіны з трэнерам зараз добрыя.

***- Сёньня на ўзроўні гуляюць 6-7 чалавек, з маладых можа хто-небудзь «выбухнуць»?***

- Ёсьць у нас Алег Вербаль - хлопец з прыстойным кідком, калі падцягнецца фізічна - павінен праявіцца.

***- Чым растлумачыць учарашнія хуткія 5 фалоў?***

- Па-першае, мы сталі гуляць у больш мабільнай, агрэсіўнай манеры. Па-другое, яшчэ не набраў аптымальнай гульнёвай формы, асабліва, што тычыцца трапнасьці пападаньняў. Адчуваю, што прыбаўлю ў ходзе сезону.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**



## КІНААФІША ГОРАДНІ

**«ГРОДНА»:** 11-13 кастрычніка - «Паліцэйскі-гладыятар» 10.50, 11.40, 13.40, 15.20, 17.10, 19.10, 21.00. 14 кастрычніка - «Разьлік у Рыа» 10.50, 11.40, 13.40, 15.20, 17.10, 19.106 21.00.

**«КОСМАС»**: 11 кастрычніка - «Блакітная лагуна-2» - 13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 21.00

**«КАСТРЫЧНІК»**: 11-13 кастрычніка - «Касьмічная замятня» (фантастыка) - 10.00 (ільготны) 11.50, 13.40, 15.30. «Доктар Жэкіл і міс Хайт» (камедыя) - 15.00, 16.50, 18.40, 20.30. «Укол парасонам2 (камедыя) 15.20, 17.10. «Небясьпечная гульня» (эротыка для дарослых) - 19.10, 21.00. ВІДЭА: «Першы ўдар» (баявік) 15.00. «Бразготка» (баявік) 16.50. «Сяржант Білка» (камедыя) 18.40, 20.30. КІНО-ДЗЕЦЯМ: 12 кастрычніка - «Нэс і Нэсі» 12.00. «Зямля да пачатку часу - 3» (мультвільм) 13.30. 13 кастрычніка «Пакаці гарошак» (мультзборнік) 12.00. «Цацачная гісторыя» (мультфільм) 13.30.

**«УСХОД»**: аўтаадказьнік - 47-81-29.

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»:** аўтаадказьнік -72-29-08.

КУЛЬТУРА

# ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ МАЦІ ПАЭТА

**4 кастрычніка споўнілася 100 годоў з дня сьмерці маці Максіма Багдановіча. Марыя Багдановіч памерла ў Горадні, пахаваная на старых гарадзкіх могілках. У мінулую пятніцу музей Максіма Багдановіча ў Горадні правёў задушны дзень па маці паэта.**

У 15 гадзін каля магілы Марыі Багдановіч сабраліся прадстаўнікі грамадзкасьці Горадні, госьці з Менску, студэнты і выкладчыкі гарадзенскага універсітэту. Прысутныя ўсклалі кветкі да помніка маці Максіма, прачыталі кароткую малітву. Пасьля людзі накіраваліся ў Брыгідзкі касьцёл, дзе была за яе душу адслужана імша.



Увечары ў Тэатры лялек прайшла ўрачыстая літаратурна-мастацкая імпрэза, якую падрыхтавалі супрацоўнікі гарадзенскага музею Максіма Багдановіча і выкладчыца універсітэту Ала Петрушкевіч.

Перад удзельнікамі вечарыны выступіла паэтка, дырэктар музея Багдановіча Данута Бічэль-Загнетава. Паэты Анатоль Брусевіч і Юрась Пацюпа прачыталі свае вершы. Студэнтка універсітэту Аксана Кніга прасьпявала песьні на словы Максіма Багдановіча і Дануты Бічэль-Загнетавай. Таксама адбыўся міні-канцэрт знакамітых беларускіх бардаў, Віктара Шалкевіча і Андрэя Мельнікава.

## ЗДАРЭНЬНІ

### АГНЁМ І НАЖОМ

...спрабавалі скончыць сваё жыцьцё два жыхары Гарадзеншчыны. 36-гадовы падвіпілы калгасьнік з вёскі Рыбніца Гарадзенскага раёну пасьля сваркі з жонкай абліў сябе беньзінам і падпаліў. А 30-гадовая прыбіральшчыца адной з гарадзенскіх школ спрабавала зрабіць сабе «харакіры», ужыўшы, дзеля сьмеласьці, таксама дозу сьпіртнога. Абое небаракі зьмешчаныя ў шпіталь.

### СУПРАЦЬ ТАНКАЎ І НАСТАЎНІКАЎ

На мінулым тыдні ў Горадні была «замінаваная» чарговая школа. Пра тэлефонны званок невядомага тэрарыста ў міліцыю паведаміў дырэктар СШ N 25. Міну, як вядзецца ў такіх выпадках, сапёры не знайшлі.

Затое паведамленьне пра сьмертаносную зброю, знойдзеную на полі каля вёскі Струбка Гарадзенскага раёну, аказалася сапраўдным. На пляцоўцы, якая належыць фірме «Мока», сапраўды ляжала супрацьтанкавая міна.

**В.ДРЭМА.**

## АДНА КРАІНА - ДЗЬВЕ НАЦЫІ

Імя Андрэя Мельнікава добра вядома прыхільнікам бардаўскай песьні. Шмат хто далучыўся да беларускасьці праз яго творчасьць, якая вярнула людзям адчуваньне гонару за свой народ, за беларускую мінуўшчыну. Андрэя называюць рыцарам нашага адраджэньня. Нядаўна ён гасьцяваў у Горадні. Наш карэспандэнт запытаў спадара Мельнікава, што ён думае пра сітуацыю, якая склалася ў Беларусі:

*- Ужо даўно Беларусь падзелена на дзьве нацыі. Мінулагодні рэферэндум афіцыйна зацьвердзіў гэты падзел. Нашая нацыя, якая засталася вернай бел-чырвона-беламу сьцягу, апынулася ў меншасьці. Але мы мацнейшыя духоўна. Наша гісторыя пачынаецца тысячу гадоў таму. За намі стаіць памяць пра гераічных продкаў. Перад намі дарога, па якой мы ідзём наперад. Яна існуе ня толькі ў Беларусі. Беларускі шлях пралягае праз Вільню і Прагу, праз Лондан і Нью-Ёрк, нават праз кампутарную сетку Інтэрнэт. Мы крочым разам з усім сьветам. Наша дарога -разьвіцьцё.*

*Памяць чырвоназялёных беларусаў пачынаецца з 1917 году. Перад сабой яны бачаць толькі Маскву, незалежна ад таго, хто і як там будзе кіраваць. Гэтым людзям патрэбна ікона, на якую яны маглі б маліцца. Зараз зрабілі ікону з Лукашэнкі, прыйдзе нехта іншы - зробяць з іншага.*

*З цягам часу колькасьць чырвоназялёных беларусаў будзе зьмяньшацца, а бел-чырвона-белых - павялічвацца.*

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3-20.4)** З выняткам суботы ўдалы тыдзень. У працы мецімеш падзяку за добрую справу. У сэрцы, нягледзячы на асеньні холад, будзе горача. Пад канец тыдня правядзі з любым чалавекам супольны вечар.

**БЫК (21.4-20.5)** Бліжэйшымі днямі чакай дапамогі ад Венеры. Схадзі, лепш за ўсё, з каханым на дыскатэку. А пасьля, акрылёны ўзаемным пачуцьцём, пачнеш добра працаваць.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5-21.6)** Шанцаваньне ў працы і шчасьлівы вынік размовы з замежнымі партнёрамі. Затое ў пачуцьцях будзе зацішша, асабліва ў суботу.

**РАК (22.6-22.7)** У гэты тыдзень болей увагі надай асабістым справам. Ня блага было б згатаваць у нядзелю багаты абед, бо кажуць жа, што шлях да сэрца мужчыны ідзе праз страўнік.

**ЛЕЎ (23.7-23.8)** Марс надасьць табе сілаў для працы. Аднак бойся заўчаснага зьдзяйсьненьня сваіх планаў. Мусіш асабліва зважаць на выбар блізкіх супрацоўнікаў.

**ДЗЕВА (24.8-23.9)** Выходныя дні маюць быць поўныя таварыскіх здарэньняў. Атрымаеш прызнаньне сваіх кулінарных талентаў, асабліва калі ўжывеш шмат прыправаў, якія дададуць агня любаму.

**ШАЛІ (24.9-23.10)** Сонца разам з Меркурыем вяшчуюць шанцаваньне ў працы. Але на большыя посьпехі трэба будзе пачакаць. У сераду паспрабуй шчасьця ў латарэі. Зважай на здароўе.

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)** Мяркуецца рамантычны тыдзень. І добра, калі надвор'е не дае быць па-за домам. Але не крытыкуй суседзяў, узважвай кожнае слова, каб нікога не даймаць.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)** З новым запалам возьмешся за свае абавязкі. Серада прынясе першы вытворчы посьпех. Таксама чакай падвышэньня заробку, калі адолееш сваю прыроджаную ляноту.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)** Бліжэйшыя дні будуць параўнальна цяжкія. З дапамогаю некага з-пад знаку Дзевы ці Быка адолееш усе перашкоды, ня толькі цяперашнія, але і на будучыню.

**ВАДАЛЕЙ ( 21.1-19.2)** Магчыма на працы зашмат бярэш на сябе абавязкаў. Карона не спадзе з Тваёй галавы, калі папросіш Ільва аб дапамозе. А потым можаце вясёла адпачываць.

**РЫБА (20.2-20.3)** Бліжэйшы тыдзень прынясе важныя заданьні ў вытворчых справах. Суладаеш з імі, калі будзеш помніць, што лёс выбраў для цябе найлепшыя разьвязкі. У суботу сварка з каханым.



## АЎТАРЫНАК

**КОШТЫ АЎТАМАБІЛЯЎ НА БІРЖЫ Ў БЕЛАСТОКУ на мінулым тыдні. Цэны пададзены ў тысячах новых злотых.**

**Курс злотага да даляра складае $ 1 = zl. 2,79**

Лада, 1993 г.в., zl. 13,8
Лада, 1992 г.в., zl. 12,7
Лада, 1991 г.в., zl. 10,4-12,8
Лада, 1990 г.в., zl. 9,2-9,6
Лада-Самара, 1994 г.в., zl. 17,0
Лада-Самара, 1993 г.в., zl. 13,5-14,9
Лада-Самара, 1992 г.в., zl. 12,8-13,7
Лада-Самара, 1986 г.в., zl. 6,5-6,8
Масквіч, 1990 г.в., zl. 6,3
Масквіч, 1989 г.в., zl. 5,0
Таўрыя, 1994 г.в., zl. 10,8
Таўрыя, 1993 г.в., zl. 8,4
Таўрыя, 1989 г.в., zl. 5,1
Фіат-Пунта, 1995 г.в., zl. 26,9-29,5
Фіат-Пунта, 1994 г.в., zl. 24,7
Фіат-Уна, 1992 г.в., zl. 18,7
Фіат-Тыпо, 1994 г.в., zl. 22,5-23,5
Фіат-Тыпо, 1990 г.в., zl. 16,8
Фіат-Тыпо, 1989 г.в., zl. 16,8
Фіат-Тэмпра, 1995 г.в., zl. 33,5
Фіат-Тэмпра, 1994 г.в., zl. 26,0
Фіат-Крома, 1991 г.в., zl. 21,0
Фіат-Крома, 1990 г.в., zl. 14,0
Альфа-Рамэа, 1994 г.в., zl. 46,0
Фальксваген-Гольф, 1995 г.в., zl. 40,0
Фальксваген-Гольф, 1994 г.в., zl. 32,0-36,0
Фальксваген-Джэта, 1990 г.в., zl. 20,0-21,0
Фальксваген-Пасат, 1992 г.в., zl. 32,0
Фальксваген-Пасат, 1991 г.в., zl. 24,5-27,0
Фальксваген-Пола, 1994 г.в., zl. 29,0
Фальксваген-Пола, 1993 г.в., zl. 21,5
Аўдзі 80, 1993 г.в., zl. 39,0
Аўдзі 80, 1991 г.в., zl. 24,7-27,5
Аўдзі 80, 1990 г.в., zl. 23,5
Аўдзі 80, 1989 г.в., zl. 23,0
Аўдзі 100, 1994 г.в., zl. 56,0
Аўдзі 100, 1992 г.в., zl. 38,0-44,0
Аўдзі 100, 1991 г.в., zl. 34,3
Аўдзі 100, 1990 г.в., zl. 26,0
БМВ 316, 1992 г.в., zl. 39,5
БМВ 316, 1989 г.в., zl. 20,0
БМВ 318, 1991 г.в., zl. 35,0
БМВ 318, 1987 г.в., zl. 16,5
Мэрсэдэс 190, 1990 г.в., zl. 30,0
Мэрсэдэс 190, 1987 г.в., zl. 24,5
Мэрсэдэс 190, 1986 г.в., zl. 20,0
Мэрсэдэс 200, 1990 г.в., zl. 36,0
Опель-Корса, 1996 г.в., zl. 29,0
Опель-Корса, 1994 г.в., zl. 24,0
Опель-Корса, 1989 г.в., zl. 15,0
Опель-Амега, 1992 г.в., zl. 27,0
Таёта-Камры, 1994 г.в., zl. 67,0
Таёта-Камры, 1992 г.в., zl. 48,5
Мазда 323, 1991 г.в., zl. 21,0
Мазда 323, 1990 г.в., zl. 19,5
Нісан-Сані, 1993 г.в., zl. 25,0
Нісан-Сані, 1990 г.в., zl. 13,9
Нісан-Прэм'ера, 1995 г.в., zl. 40,0
Нісан-Прэм'ера, 1991 г.в., zl. 28,5
Форд-Фіеста, 1994 г.в., zl. 22,5
Форд-Фіеста, 1993 г.в., zl. 18,7-21,9
Форд-Сьера, 1990 г.в., zl. 18,0
Форд-Сьера, 1989 г.в., zl. 13,5
Форд-Скорпіа, 1991 г.в., zl. 22,5
Форд-Скорпіа, 1990 г.в., zl. 18,3
Пежо 205, 1991 г.в., zl. 12,8-16,0
Пежо 205, 1990 г.в., zl. 20,0
Сітраэн AX, 1993 г.в., zl. 18,3
Сітраэн ZX, 1993 г.в., zl. 19,5
Сітраэн BX, 1987 г.в., zl. 13,0
Сітраэн XM, 1992 г.в., zl. 38,0
Рэно-Кліа, 1994 г.в., zl. 23,0
Рэно-Кліа, 1992 г.в., zl. 17,5

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская, 1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.0



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 3338 Наклад 11974
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 10.10.96

Рэдактар Мікола Маркевіч